ДЕНЬ

НАША БУДУЧЫНЯ
Знаёмімся з 11 «А» класам школы № 15
стар. 15

Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»
5 – 11 лютага 2004 года | № 2 (174) | Кошт 500 рублёў

# Выгнаны гандаль

## Гандляры вымушаныя выселіцца з рынка

**Першага лютага спыніла працу большасць гандляроў папулярнага гарадзенскага міні-рынка па вуліцы Паліграфістаў. Паводле рашэння гарвыканкама на рынку засталося толькі 70 са 150 гандлёвых палатак. Сваім рашэннем гарадская ўлада падзяліла рыначнікаў на два лагеры. Але і тым, хто рашэннем улады застаўся на рынку, дазволена гандляваць толькі тры месяцы, да 1 траўня.**

Апошнія гандлёвыя палаткі з міні-рынка на Паліграфістаў павінны быць прыбраныя праз тры месяцы – такое рашэнне днямі прыняў гарвыканкам. Скарачэнне гандлёвых месцаў больш, чым у два разы стала адзінай магчымасцю захаваць працу для 70 прадпрымальнікаў. На агульным сходзе, які адбыўся ў мінулы чацвер, самі прадпрымальнікі шляхам галасавання павінны былі вызначыць, хто застаецца, а хто адыходзіць. Крытэрам адбору абралі «стаж» работы на Паліграфістаў, які павінен быў быць не меншы за 2 гады і, таксама, наяўнасць аднаго гандлёвага месца на мінірынку. За кожнага свайго калегу гандляры павінны былі аддаць голас «за» ці «супраць». Галасаванне зацягнулася да 23-х гадзінаў вечара і пакінула шмат незадаволеных.

### Бойкае месца

За два гады працы міні-рынак стаў адным з самых бойкіх і папулярных гандлёвых аб'ектаў. Тут прадавалі усё – адзенне, абутак, хатнія дробязі, карнізы, пральны парашок, булачкі і нават, зразумела нелегальна, цыгарэты, валюту і спірт. Разлік гандляроў на поспех лагічны – праз Паліграфістаў ідуць усе дарогі на Цэнтральны рынак. Тут заўсёды натоўп пакупнікоў, якія соўкаецца ва ўсе бакі.

*Працяг на стар. 3*


Фота Юліі Дарашкевіч

***На міні-рынку па вул. Паліграфістаў прадавалі ўсё: ад абутку і адзення, да валюты і спірту.***

## Куры здохлі ад страха?

**Дванаццаць тысячаў кур здохлі ў выніку пажару на Гарадзенскай птушкафабрыцы, што ў пасёлку Фабрычным.**

Узгаранне адбылося ў панядзелак, а палове на шостую вечара, у прыбудове для збору яек птушніка №9. Затым агонь перакінуўся на шыферны дах. Паводле інфармацыі Упраўлення па надзвычайным сітуацыям Гарадзенскай вобласці, ратавальнікі на месца здарэння прыбылі своечасова, і ўжо ў 18.10 пажар быў ліквідаваны. Агонь цалкам знішчыў дах яйказборніка, а таксама абсталяванне, якое знаходзілася ў памяшканні прыбудовы.

Цікава, што сам будынак птушніка ад агня не пацярпеў. Таму пакуль невядома, ад чаго здохлі куры.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

## Вымова Саўчанку

**«За неналежнае выкананне службовых абавязкаў, якое выявілася ў адсутнасці кантролю за няўхільным выкананнем даручэння Кіраўніка дзяржавы аб будаўніцтве штогод у кожнай сельскагаспадарчай арганізацыі ў сярэднім не менш за пяць жылых дамоў (кватэр)».**

Прэзідэнцкую вымову з такой фармулёўкай атрымаў на мінулым тыдні старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка. Разам з ім пакараныя ўсе старшыні аблвыканкамаў і намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Цюцюноў.

Уладзімір Саўчанка, у сваю чаргу, паводле загада Аляксандра Лукашэнкі, павінен прыцягнуць да адказнасці службовых асобаў, якія не забяспечылі выкананне вышэйзгаданага даручэння.

**І. П.**

## Спяваюць Варшава і Зэльва

**Хор «Бацькаўшчына» і праваслаўны хор з Варшаўска-Бельскай епархіі возьмуць удзел у Гарадзенскім фестывалі праваслаўных песнапенняў, які пройдзе 6-7 лютага ў Гарадскім доме культуры.**

Па словах рэгента хора Гарадзенскай епархіі, кампазітара Андрэя Бандарэнкі, мэтай фестываля стала жаданне адрадзіць еўрапейскую традыцыю праваслаўнай музыкі.

Адметнасцю імпрэзы стане супольны ўдзел свецкіх і царкоўных калектываў. Свае майстэрства выканання прадэманструюць, акрамя названых знакамітасцяў, і калектывы з правінцыі – з Дзярэчына, Зэльвы, Ваўкавыска, Свіслачы, Бераставіцы.

**Алеся МАКОЎСКАЯ**

## Дня НАДВОР'Е

**5 лютага** па Гродне пахмурна, удзень +7..+9, уначы +6..+8, дождж;

**6 лютага:** вобл., удзень +8, уначы +5..+7, дождж;

**7лютага:** вобл., удзень +6, уначы +6, дождж;

**8 лютага:** вобл., удзень +3, уначы +4, дождж;

**9 лютага:** вобл., удзень -1, уначы -1, снег;

**10 лютага:** пахмурна, удзень +1, уначы -3, без ападкаў;

**11лютага:** вобл., удзень +7, уначы+3, дождж.

## «Польшчу» ўсё ж такі адключаюць!

**З другога лютага ТАА «Гарадзенскі абласны тэхнагандлёвы цэнтр «Гарант» пачаў адключаць прыём Першай праграмы польскага тэлебачэння. Першымі пазбавіліся магчымасці глядзець TVP 1 жыхары дамоў у раёне Фолюша.**

– *Паступова мы перавядзем прыём польскай праграмы ў «дадатковы пакет» на тэрыторыі ўсяго горада. Тыя, хто хоча і надалей атрымліваць «Польшчу» павінны заключыць з намі адпаведную дамову,* – гаворыць энергетык ТАА «Гарант» **Уладзімір Лузанаў.**

Як стала вядома карэспандэнту ДНЯ, Саюз палякаў на Беларусі звярнецца ў Камітэт па справах рэлігій і нацыянальных меншасцяў з пратэстам з нагоды адключэння польскага тэлебачэння.

– *Гэта палітычная справа. Яшчэ ў часы СССР для вайскоўцаў, што служылі на мяжы, існавала забарона на прагляд польскага тэлебачэння. Улады баяліся «шкоднага» ўплыву польскага тэлебачэння... Цяпер да гэтага вяртаюцца... Сёння ўлады разумеюць, што той, хто глядзіць «Польшчу», мае іншыя думкі і памкненні, чым хацелася б уладам,* – лічыць ганаровы старшыня СПБ **Тадэвуш Гавін.**

Сітуацыя з TVP 1 выклікала занепакоенасць, нават, у мясцовых чыноўнікаў.

– *Мы цяпер высвятляем гэтую сітуацыю. Сапраўды, ёсць адпаведнае распараджэнне Міністэрства інфармацыі пра сацыяльны пакет тэлепраграмаў і «Польшча» ў гэты пакет не трапіла,* – гаворыць начальнік Упраўлення інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама **Уладзімір Амелька**. Ён не выключае, што хутка можа быць прынята рашэнне пра аднаўленне трансляцыі TVP 1.

30 снежня Міністэрствам інфармацыі быў выдадзены загад № 208 аб пераводзе папулярнай сярод гарадзенцаў TVP 1 у так званы «дадатковы пакет» тэлепраграмаў. Згодна з гэтым загадам, за магчымасць глядзець польскую праграму гарадзенцам прыдзецца плаціць большую суму, чым дагэтуль.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

## Як улада спыняла надыход «ДНЯ»

**Паважаныя сябры, калі Вы чытаеце гэтыя радкі, значыць ДЕНЬ ізноў прыйшоў на Беларусь! Прыйшоў, нягледзячы на ўсе перашкоды, якія стварыла нам ананімная ўлада.**

Спачатку менскае аддзяленне «Белсаюздрука» адмовілася, нягледзячы на дамову, браць нашую газету на рэалізацыю. Маўляў, менскія кіёскі перапоўненыя і ДЕНЬ няма куды пакласці. Потым пателефанавалі з экспедытарскага прадпрыемства «Росчерк», якое праз пару гадзінаў павінна было, ізноў такі паводле пісьмовай дамовы, везці нашу газету ў Гродна.

*– Нам эканамічна невыгадна працаваць з вамі,* – сказаў мужчынскі бас з трубкі. *– Шукайце сабе іншага перавозчыка...*

На наступны дзень «адзначылася» прадпрыемства «Гроднааблсаюздрук».

*– Паступіў загад вашу газету ў работу не браць,* – заявіла непахіснага выгляду кабета на «сарціроўцы», куды мы даставілі газету, што называецца саматугам.

*– Але ж у нас з вамі заключаная дамова,* – паспрабавалі запярэчыць мы.

*– Нічога не ведаем,* – было адказам. *– Звяртайцеся да начальства!*

Начальства патлумачыла сітуацыю такім чынам, што яшчэ больш заблытала яе:

*– Мы супраць вас нічога не маем,* – паведаміў самы галоўны. *– Але ж мне засталося толькі тры гады да пенсіі... Таму прадаваць вашую газету не будзем!*

Злыя языкі сцвярджаюць, што ногі ва ўсёй гэтай гнюснай гісторыі растуць з Міністэрства інфармацыі. Нібыта, менавіта адтуль, па тэлефоне, распарадзіліся парушыць дамову. Праўда, падчас разбіральніцтва, праведзенага рэдакцыяй, ніхто з названых нам чыноўнікаў Міністэрства інфармацыі не ўзяў на сябе адказнасць за тое, што на шляху газеты да чытача ўстаў менавіта ён.

Яно і зразумела: хто ж прызнаецца, што, кажучы мовай Закона аб друку, «перашкаджаў дзейнасці легальна зарэгістраванага сродку масавай інфармацыі»?! За гэта, рана ці позна, прыйдзецца адказваць. Вось таму і дзейнічае ананімны шкоднік, як пацук, спадцішка.

...Аднак, першы нумар газеты ўсё адно патрапіў да чытача! Дойдуць і наступныя!! Бо, калі прыходзіць Дзень – пацукі разбягаюцца!!!

**Мікола МАРКЕВІЧ**

# Спім спакойна!?

**На Гарадзеншчыне зафіксаваны самы нізкі ўзровень злачыннасці ў краіне – 115 праваапрушэнняў з разліку на дзесяць тысячаў чалавек. Гэтыя лічбы агучыў начальнік упраўлення ўнутраных справаў Гарадзенскага аблвыканкама генерал-маёр Анатоль Белашэўскі.**

**Агулам, у мінулым годзе на Гарадзеншчыне зарэгістравана 13 301 злачынства. І гэта ніжэй на 5,7 % агульнабеларускага паказчыка. Раскрыццё злачынстваў у мінулым годзе склала 63,1 %, і па гэтым паказчыку мы наперадзе ўсёй краіны.**

**Амаль на чвэрць знізілася ў нашай вобласці колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў, у мінулым годзе іх зафіксавана 2 468.**

**Гарадзенскі АБЭЗ сканфіскаваў і арыштаваў маёмасці, грошаў і каштоўнасцей на суму 1 мільярд 987 мільёнаў рублёў.**

**Лічбы – рэч пераканаўчая. Але, што за імі стаіць? Ці становіцца нашае жыццё больш бяспечным?**

### *Урэшце рэшт, ці беражэ нас наша міліцыя?*

**СУПРАЦЬ**



■ ***Мікіта Паўроз,*** *гітарыст гарадзенскага гурта «Deviation»:*

– Упэўнены, што не беражэ. Міліцыя даволі часта перавышае свае паўнамоцтвы. Майго сябра гарадзенскія міліцыянты спрабавалі абвінаваціць у крадзяжах з гаражоў. Яго затрымалі пасля аднаго з канцэртаў і завезлі ў Ленінскі РАУС. Міліцыянты прымушалі яго прызнацца, што гэта ён скраў. Якім чынам? Рабілі яму «слоніка»: надзявалі яму на на галаву супрацьгаз і затыкалі трубу. І гэта праўда! Людзям трэба ведаць законы і свае правы, нельга даваць сябе катаваць нікому, нават людзям у пагонах. А міліцыі трэба ставіцца да сваёй працы як прафесіяналам, а не паводзіць сябе, як гаспадары з неабмежаванай уладай над людзьмі, і адчуваць сябе беспакаранымі. Толькі тады можна будзе сказаць, што міліцыя нас беражэ.

**ЗА**



■ ***Генадзь Семянчук,*** *дацэнт кафедры археалогіі і этналогіі ГрДзУ імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук:*

– Натуральна, беражэ. Па меншай меры, як кожнаму пастсавецкаму чалавеку, мне б хацелася, каб гэта было праўдай. Найбольш гэтую міліцэйскую беражлівасць я адчуваю ў адносінах да мяне – не зусім дасведчанага кіроўцы з пяцігадовым стажам – з боку нашых ДАІшнікаў. Я б іх пахваліў. Нават, калі я і парушаю правілы руху, яны не вымагаюць у мяне грошай, а рэальна спаганяюць тую суму, на якую я парушыў правілы. І, нават, паказваюць і тлумачаць, дзе і што я парушыў. Хаця, можа быць, я проста нейкі шчаслівы чалавек... Вельмі прафесійна, здаецца, працуюць следчыя, крымінальны вышук. Іх праца надае ўсім нам жыццёвую ўпэўненасць. Раз турмы перапоўненыя, значыцца, яны злодзеяў ловяць і саджаюць.

### *Ці беражэ нас наша міліцыя?*

З міліцыяй лепш не мець агульных справаў




Думаю, там ёсць нармальныя людзі

3,8% Беражэ, адчуў на ўласным прыкладзе

Нічога не робяць, а заробкі вялікія

***Вынікі інтэрнэт-галасавання на http://pahonia.promedia.by***

**Кніга Гонару – новы праект маральнага стымулявання працы насельніцтва Гарадзеншчыны, задуманы Гарадзенскім аблвыканкамам. Яна створана з мэтай ушанавання памяці выбітных жыхароў нашай вобласці, якія зрабілі значны ўнёсак у сацыяльна-эканамічнае развіццё Гарадзеншчыны. Папаўняцца кніга будзе раз на год, напярэдадні 3 ліпеня.**

***Ці думаеце вы, што Кніга Гонару ўздыме працоўны дух гарадзенцаў?***

Чакаем вашых меркаванняў у пятніцу 6 лютага з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**



***Праз лінзы Алеся ЧОБАТА***

## Другі гатунак

Адно інфармацыйнае агенства праводзіла апытанне: «Што любіце – чаго не любіце». І сярод іншага спыталася: «Ці любіце Вы хадзіць на работу?» – « Я зусім не хаджу на работу», – шчыра адказалі 343 чалавекі з тысячы. Натуральна, піянераў і пенсіянераў у той тысячы не было. Але такім спосабам інфармагенства даведалася колькі беспрацоўных у Беларусі – 34%, кожны трэці. Карацей кажучы, гэта людзі другога гатунку, нават тыя, хто дзесяты год зарабляе ў Маскве на будоўлях.

Атрымліваецца, з трох кожных на адной вуліцы, адзін ідзе з працы, другі – на працу, а трэці ўжо зусім туды не ходзіць. У першага і другога сёння можа быць добра, а, можа быць, па-рознаму, а ў трэцяга – кожны дзень і кожную ноч тое самае. Гэта значыць, што ў яговым жыцці ўжо нічога няма. Бо ён чалавек другога гатунку і такім сам сябе адчувае. Даўно і безнадзейна – ён сам, яго родныя і блізкія, якія не забываюць штодня нагадаць, што ён не чалавек. «Иди ищи работу...»

Ёсць людзі, якія ходзяць на працу літаральна за дзесяць даляраў у месяц. А хоць бы і зусім перасталі плаціць! Але ходзяць, каб не быць з кляймом другога гатунку ў вачах родных і блізкіх. А цяпер паставім праблему інакш: а хто меціць кляймом другога гатунку?

Часткова, на гэта можна адказаць па кароткім аглядзе ці кароткім побыце сярод тых, хто жыве звычайным штодзённым жыццём, без кляйма другога гатунку. Бо звычайны чалавек, што жыве звычайным жыццём проста шчыра не бачыць, што ёсць людзі, а ёсць і другі гатунак. І што другога гатунку ўжо кожная трэцяя асоба.

Звычайны чалавек са звычайным жыццём шчыра ўпэўнены, што каму зусім кепска... той сам сабе выбраў, каб яму было зусім кепска. От, па нейкіх сваіх прычынах... Сыты не таму не разумее галоднага, што ён сыты, а таму, што пэўны свае веры: кожны жыве так, як сам выбраў, бо так яму самому захацелася.

У 1989 годзе Польшча святкавала канец камунізму, і яшчэ не ведала, што зараз уляпаецца ў нешта іншае, але тое самае. Адзін Яцак Курань, самы страшны для камуністаў салідарнік не захацеў сабе аніякіх пасадаў, па-за маласважным міністэрствам сацыяльнай апекі. Для чаго? Для таго, каб прабіць праз Сейм невялікія, але пажыццёвыя выплаты па беспрацоўі. І дэманстратыўна папрасіў у калегі-салідарніка выкаціць на плошчы армейскія кухні – варыць і раздаваць гарохавы суп.

Але потым прынялі з палітыкі самога Кураня, потым прыбралі кухні, цяпер кожны жонд падрэзвае гэтыя кураня́ўкі-выплаты. Маўляў, паколькі ў Польшчы рост прадукцыі, то мы ня ведаем, чаму ў Польшчы расце беспрацоўе. Яцак Курань дажывае ў крэсле ў сябе дома, але здольны час ад часу, хоць і толькі ў канкрэтнай паасобнай справе, тэлефанаваць хоць на самы верх і нагадаць, што Гасподзь казаў дзяліцца. І Кураня слухаюць – таму што баяцца, як страчанага сумлення.

Бо грошы беспрацоўным і гарохавы суп на вуліцах ваявалі не з беднасцю і беспрацоўем. Яцак Курань не хацеў самага гадкага на свеце падзелу – на людзей і на другі гатунак. Тым болей гадкага там, дзе яго не падкрэсліваюць – на белых і чорных, на камуністаў і беспартыйных – а дзе стараннa не заўважаюць, як у цывілізаванай Еўропе. ■

## Лічба дня

# 146.914.250

**рублёў штрафаў заплацілі ў мінулым годзе кантралёрам у тралейбусах і аўтобусах безбілетныя гарадзенцы і госці нашага гораду.**

Агулам за 2003 год кантралёры тралейбуснага ўпраўлення і аўтобуснага парка выпісалі штрафы 20 976 безбілетнікам. Яшчэ, каля васьмі тысячаў пратаколаў былі накіраваныя для разбіральніцтва на месцы працы «зайцоў» і суды.




## У Гродне чыталі...

### ...10 год таму...

«Пакуль вярхі сварацца, нізы самі шукаюць выйсце... пэнсіянэр К. зрабіў на бальконе катух для курэй і штодзень ласуецца сьвежымі яйкамі. Пэнсіянэр Ч. таксама на бальконе дзяржаўнай кватэры гадуе пушных зьвяркоў. А вось адна пэнсіянэрка з вуліцы Ціtова... з мэтай эканоміі... купляе гавяжыя косьці й аж сем разоў варыць на іх стравы»

**ПАГОНЯ, 11-17 лютага 1994 года**

### ...20 год таму...

«Количество голодающих в США резко возросло и достигло рекордной цифры – 34 миллионов. А Р.Рейган находит удовольствие в том, чтобы воровать у них из рук миски жирной похлёбки. «Сэкономленные» таким способом доллары ссыпаются в бездонный карман Пентагона»

**Сельская новь, аўторак, 7 лютага 1984 года**

### ...55 год таму...

«Центр города воссоздаётся на правом берегу Немана, при слиянии основных магистралей – нынешних улиц Советской, Карла Маркса, Замковой, Мостовой. Советская площадь станет центральной в городе. Она укрепится величественным зданием Дома Советов. Подступы от центральной площади к берегам Немана отводятся под зелёные насаждения, где будет создан бульвар с системой фонтанов. Помимо центральной площади, генеральный план предусматривает создание двух других площадей – в восточном и южно-заречненском районах»

**Гродзенская праўда, 9 лютага 1949 года**

# Выгнаны гандаль

## Гандляры вымушаныя выселіцца з рынка

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

Прадпрымальнікі сустрэлі распараджэнне ўладаў аб скарачэнні рынка з абурэннем і намерам адстаяць свае правы гандляваць на старым месцы. Цэлы месяц працавала агульная камісія з прадпрымальнікаў і чыноўнікаў. Увесь студзень гандляры працавалі на «птушыных правах», бо, паводле папярэдніх рашэнняў гарадскіх уладаў, ачысціць тэрыторыю яны павінны былі ўжо з пачатку новага года. Аднак, напярэдадні гадзіны «Х», прадпрымальнікі прынялі ўсе ўмовы і падзяліліся на дзве групы. Адна працягвае працу да траўня. Другая шукае сабе іншыя месцы.

### Каму перашкодзілі палатачнікі?

Намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Сіўцоў назваў дзве прычыны, якія сталі падставай для высялення гандляроў з міні-рынка. Па-першае, гэта неадпаведнасць стракатага пейзажу брудануватых палатак архітэктурнаму плану горада. Па-другое, пажарная небяспека. На агульным сходзе ў мінулы чацвер, з удзелам прадстаўнікоў уладальніка міні-рынка прадпрыемства «Торгсервис», гарвыканкама і больш чым двухсот прадпрымальнікаў, спадар Сіўцоў заявіў катэгарычна, што базара ў цэнтры горада быць не павінна.

З аргументамі чыноўніка можна пагадзіцца. На самой справе, у базарныя дні вузкую пешую вуліцу Паліграфістаў апаноўвае тлум людзей. Калі б здарылася надзвычайная сітуацыя – прабрацца праз сотні людзей да выхада было б праблематычна. Адсутнічае магчымасць праезду спецыяльнай аўтатэхнікі – хуткай дапамогі ці міліцыі.

Старшыня абласнога ўпраўлення па прадпрымальніцтву Міхаіл Логвін прапанаваў гандлярам альтэрнатыву – перабрацца на астатнія рынкі горада. Прадпрымальнікі лічаць выбар нероўназначным. На «Паўднёвым» гандлююць, галоўным чынам, аптавікі ды ідзе продаж спусцелых пасля адкрыцця «Кароны» боксаў і крамаў. Да таго ж невядома, што чакае гандляроў далей, бо ў хуткім часе на «Паўднёвым» пачне працаваць аўтакоміс. Новы рынак «Карона» большасць «палатачнікаў» «не пацягне» з-за дарагавізны месцаў. Крыты рынак, што адкрыўся паміж вуліцамі Антонава і Паліграфістаў, не абсталяваны для гандлю прамысловымі таварамі.

### За дах прыдзецца плаціць

Скарачэнне міні-рынка на вуліцы Паліграфістаў стала першым крокам на шляху да паступовага пераводу вулічнага гандлю пад дах, у спецыяльна абсталяваныя крамы і гандлёвыя цэнтры.

Горад Менск, этап ачышчэння вуліцаў і прыпынкаў ад гандлёвых палатак, ужо прайшоў. У выніку з больш чым чатырох з паловай тысяч палатак на сталічных вуліцах засталося каля чатырохсот.

**Алеся МАКОЎСКАЯ**



Фота Юлі Дарашкевіч

*Апошні дзень на рынку: распрадаць усё!*

**31 студзеня, у апошні дзень, калі гандляры на Паліграфістаў працавалі ў поўным складзе, мы паразмаўлялі з некаторымі з іх.**

***Тацццяна Папова**, пенсіянерка, мае на ўтрыманні непаўналетняга ўнука, засталася на рынку:*

– Тое, што на сходзе мы мусілі за некага галасаваць, а некага выкінуць – гэты было падобна на судзілішча. Як цяпер глядзець у вочы тым, каго прагналі. Яны таксама хацелі працаваць.

***Валянціна Яскулевіч**, страціла месца на рынку:*

– Я не разумею, чаму я павінна адысці. Чаму нехта вырашае за мяне мой лёс? Калі мне не дадуць магчымасці працаваць тут, я павінна буду перапыніць сваю дзейнасць. Дзе я знайду работу – не ведаю.

### Каментар ДНЯ

■ ***Валянцін Бранцэвіч**, спецыяліст юрыдычнай службы Гарадзенскага клуба прадпрымальнікаў:*

– Тэндэнцыя выганяць гандляроў з вулічных гандлёвых пунктаў у горадзе адразу адаб'ецца на пакупніках, бо, неўзабаве, падскочаць цэны за кошт таго, што гандляру трэба будзе плаціць за арэнду, ацяпленне і гэтак далей. За той самы банан мы цяпер будзем выкладваць у два разы больш.

### Апытанне дня

#### «Вы пайшлі б гандляваць на рынак?»

**Марына Вейга, прадавец:**



– Калі б жыцце прымусіла, я б пайшла працаваць на рынак. Прадпрымальнікі ўвесь час скардзяцца на высокія падаткі, страшэнна дарагую арэнду, на ўсё новыя пастановы, якія прымаюцца ўладай, але ж яны ўсё роўна стаяць на рынках. Атрымліваецца, што гэта выгадна і прыносіць прыбытак.

**Кацярына Грыбава, школьніца:**



– Я б пайшла на рынак. Не бачу нічога дрэннага ў гэтай працы. Калі для чалавека гэта добры заробак – няхай праццуе. Ды і нам, не абысціся без рынку, таму і гандляваць нехта павінен. Колькасць міні-рынкаў павінна расці, трэба будаваць іх у кожнай частцы горада. У краме не купіць усё тое, што трэба для дома.



**Уладзімір Ягораў (пенсіянер), Ірына Арцем'ева (праццуе ў кіёску «Белсаюздруку»):**

– Прадпрымальнікі – будучыня дзяржавы. Калі б кіраўніцтва Беларусі дало ім вольна ўздыхнуць, пайшлі б тады падаткі ў бюджэт, і ўсе былі б задаволеныя: і дзяржава, і прадпрымальнікі, і просты чалавек. Не задавальняе тое, што тонкасуконны камбінат аддалі пад рынак, гэтага нельга было рабіць. У нас стаяць амаль што ўсе прадпрыемствы, а яны, замест таго, каб наладжваць іх працу, знішчылі новыя цэхы, перарабілі іх у рознакаляровыя гандлёвыя залы».

**Аляксандр Вадарэз, рабочы:**



– Людзі памыляюцца, калі гавораць, што на рынках вялікі заробак. Толькі не ў нас. Ідуць нейкія грошы за працу, але страчаныя здароўе і нервы каштуюць больш. Я б і сам пайшоў у гандаль, але ведаю, пакуль дзяржава не зменшыць падаткі, там мяне чакае толькі банкруцтва.»

**Петр Ляўко, студэнт:**



– Калі жыцце прымусіць, усе будзем гандляваць. Я ведаю: многія кажуць, што «іх жыццёвыя прынцыпы» не дазваляюць ім стаяць за прылаўкам. Дзень-другі чалавек пабурчыць, а, як есці захоча, дык першы на рынак і прыляціць. Прадпрымальнікі перажываюць цяпер цяжкія часы, але ўсе будзе добра. Усё часова ў нашым свеце, таксама, як і ў нашай дзяржаве.

**Апытвала Крысціна АЛІНІНА**

### У Гродне па стану на пачатак года:

■ 900 малых прадпрыемстваў ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць (зарэгістравана звыш 1,5 тысячаў малых прадпрыемстваў);

■ больш 11 тысячаў індывідуальных прадпрымальнікаў;

**Разам** малымі прадпрыемствамі ды індывідуальнымі прадпрымальнікамі выраблена:

■ 4% прамысловай прадукцыі горада;

■ 7% спажывецкіх тавараў;

■ 6% усіх рамонтных паслугаў.

■ 124% – рост прамысловай вытворчасці ў прыватным сектары эканомікі горада.

■ 7,2 % прадукцыі – доля прыватнага сектара Гродна.

■ 13% сродкаў у бюджэце Гродна (26,8% у бюджэце вобласці) – паступленні ад дзейнасці ІП і малых прадпрыемстваў.



***Дзмітры Іваноўскі**, намеснік старшыні рэспубліканскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва»:*

– Законы, якія прымаюцца на агульнабеларускім і мясцовым узроўні – знішчаюць прадпрымальніцкую дзейнасць. Прадпрымальнікі даюць 13% бюджэта горада і 26,8% бюджэта вобласці. Паказчык, які дае разуменне таго, які эканамічны стан нашай вобласці, бо значная частка прадпрымальнікаў знаходзіцца ў абласным цэнтры.

На сённяшні дзень ёсць праблемы, якія можна вырашаць рознымі сродкамі. Сітуацыя ў прадпрымальніцтве такая, што прадпрымальнікі вымушаны аб'яўляць нейкія радыкальныя лозунгі, той жа страйк, іншыя актыўныя дзеянні супраць рашэнняў улады. Іншых аргументаў няма.

***Аляксандр Красцін**, намеснік начальніка Камітэта прадпрымальніцтва Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта:*

– Існуе пабытавое меркаванне, што беспрацоўны ці звольнены з прадпрыемства, абіраючы працу прадпрымальніка, тым самым вырашае праблему свайго існавання, праблему заробка і ўтрымання сям'і. Але ў той самы час ён не ўсведамляе таго, што становіцца суб'ектам гаспадарання і прымае на сябе ўвесь цяжар адказнасці, які накладае гэты статус.

Сёння прэзідэнтам Беларусі пастаўлены сур'ёзныя прагнозныя паказальнікі – нарошчванне тэмпаў вытворчасці, прыцягненне інвестыцыяў. Улічваючы гэта, можна сказаць, што ў бок малога прадпрымальніцтва зроблены сур'ёзны ўхіл. Але і ад прадпрымальнікаў павінна таксама зыходзіць ініцыятыва.



***Франц Мамуль**, старшыня Грамадскага аб'яднання «Клуб прадпрымальнікаў»:*

– Краіна без малога і сярэдняга бізнесу развівацца нармалёва не можа. У нас сёння прадстаўнікі малога бізнеса падзеленыя існуючым заканадаўствам. Яны баяцца. У прадпрымальніцкія аб'яднанні прыходзяць хутчэй выгаварыцца, чым зрабіць нейкі канкрэтны крок. Некаторыя пачынаюць баяцца сваёй цені. Таму, колькі б мы не заклікалі «наперад» ці «назад», толькі аб'яднанні прадпрымальнікаў могуць выходзіць на органы ўлады і прабіваць сабе дарогу. У нас так не атрымліваецца, каб прадстаўнікі прыватнага бізнесу аб'ядналіся знізу і пайшлі наперад з паднятым сцягам дабівацца свайго.

**Выкарыстаны матэрыялы прэс-клуба «Прадпрымальнікі і ўлада»**

# Жалезная вада

## Гарадзенская вада ўтрымлівае двайную норму жалеза

**У лютым Гродна цалкам пяройдзе на падземнае водазабяспячэнне. Цяпер у кватэрах гарадзенцаў будзе вада выключна з артэзіянскіх свідравінаў. На думку эпідэміёлагаў, гэта ёсць гарантыя яе высокай якасці, але незалежныя крыніцы сцвярджаюць, што нягледзячы на гэта, піць «ваду з-пад крана» па-ранейшаму небяспечна. Справа ў тым, што гарадзенская вада ўтрымлівае ў два разы больш жалеза, чым гэта прадугледжана патрабаваннямі, зацверджанымі Рэспубліканскім Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі.**



Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА

***Што будзе з тымі, хто п'е такую ваду?***

### Жыць будзем?

– *У мінулым годзе ў развіццё падземнага водазабяспячэння было ўкладзена больш за 8 мільярдаў рублёў... Былі запушчаны новыя свідравіны, набыты новыя шведскія помпы... Для гарадзенцаў пераход на падземнае водазабяспячэнне азначае, перш за ўсё, павялічэнне якасці вады,* – лічыць галоўны інжынер «Водаканала» **Іван Якубоўскі**.

Падобнага пункту гледжання прытрымліваюцца і ў Гарадзенскім гарадскім Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

– *Пасля пераходу на падземныя артэзіянскія крыніцы, якасць вады палепшыцца... Яна станецца больш бяспечнай у эпідэміялагічным плане,* – гаворыць галоўны ўрач Гарадзенскага гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Мікалай Кендыш**. Паводле яго словаў, узровень жалеза ў водаправоднай вадзе не перавышае 0,6 мг на літр.

– *Ніякага ўплыву на здароўе гэта не мае,* – лічыць Мікалай Кендыш.

Усталяваны Рэспубліканскім Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі стандарт утрымання жалеза ў вадзе, складае 0.3 мг на літр. Атрымліваецца, што ў Гродне гэты паказчык павялічаны ў два разы. Аднак эпідэміёлагі не бачаць у гэтым небяспекі для здароўя.

– *Што будзе з тымі, хто п'е такую ваду? Ды нічога! Жыць будуць,* – заяўляе загадчык аддзялення камунальнай гігіены Рэспубліканскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Сямён Позін**. – *Па ўзгадненні з нашымі службамі ўзровень жалеза ў вадзе можа быць павялічаны да 1мг на літр. Гэта цалкам нармальна.*

### Сэрца не з жалеза

Кожная хатняя гаспадыня ведае, як дрэнна праць у «жорсткай» вадзе. Такая вада можа паўплываць на змену колеру, пакінуць плямы на белых рэчах, знішчыць пральную машыну...

Жалеза – гэта цяжкі метал і, разам, з нікелям, хромам, свінцом і меддзю адносіцца да высокатаксічных. Магчыма таму, не ўсе спецыялісты, падзяляюць аптымізм супрацоўнікаў Цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі. Згодна з даследваннямі, якія былі праведзеныя яшчэ ў савецкія часы, існуе сувязь паміж наяўнасцю ў вадзе павялічанай колькасці жалеза і шэрагам хваробаў, на якія хварэюць жыхары.

– *Шкоднасць вады з павялічаным утрыманнем жалеза агульнавядомая. Пра гэта шмат напісана ў навуковай літаратуры. Негатыўны ўплыў такая вада аказвае, перш за ўсё, на сэрца, страўнік і печань. Спажыванне вады з павялічанай колькасцю жалеза можа, напрыклад, спрыяць захворванню на ішэмічную хваробу сэрца,* – гаворыць навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытуту санітарыі і гігіены **Валянціна Рудзік**.

### Што рабіць?

Станцыя абезжалезвання ёсць на кожным гарадзенскім водазаборы. Але іх магутнасць не адпавядае патрэбам горада. Напрыклад, толькі што рэканструяваны водазабор «Гожка» дае да 75 тысячаў кубічных метраў вады ў суткі. У гэты час станцыя абезжалезвання, якая там знаходзіцца, можа апрацаваць толькі 55 тысячаў кубічных метраў.

– *Калі на працягу года ў горадзе не будзе пабудавана дадатковая станцыя абезжалезвання, дык колькасць жалеза ў вадзе павялічыцца... Прычына ў тым, што жалеза мае ўласцівасць збірацца на фільтрах, таму, якасць працы станцыі абезжалезвання будзе зніжацца, а колькасць жалеза ў вадзе будзе павялічвацца,* – сцвярджае Мікалай Кендыш.

Паводле крыніц у гарвыканкаме, план будаўніцтва дадатковай станцыі абезжалезвання ў Гродне сапраўды ёсць. На гэта патрэбна каля 6 млрд. рублёў. Ці будуць знойдзеныя гэтыя грошы ў гарадскім бюджэце? Ніхто з адказных чыноўнікаў такой гарантыі не дае. Тым часам, гарадзенцы штодзённа пьюць водаправодную ваду, колькасць шкодных рэчываў у якой будзе толькі павялічвацца.

Самым простым спосабам змяншэння шкоднасці водаправоднай вады з'яўляецца яе адстойванне перад спажываннем. Эколагі раяць, таксама, карыстацца хатнімі фільтрамі. Гэта значна дазваляе зменшыць колькасць жалеза і іншых шкодных рэчываў у вадзе.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Да касы – праз мітынг!

**Толькі пасля правядзення несанкцыянаванага мітынгу працоўныя Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі дабіліся выплаты заробку. Становішчам прадпрыемства зацікавіліся раённыя і абласныя ўлады. Але, нягледзячы на абяцанні, сітуацыя прадпрыемства, якое з'яўляецца крыніцай існавання для 1400 слонімцаў, працягвае заставацца надзвычай цяжкім.**

Раніцай 29 студзеня больш за 100 працоўных сабраліся ля будынку Слонімскага райвыканкама. Яны патрабавалі выплаты затрыманых заробкаў і павелічэння платы за сваю працу. Апошнім часам фабрыка часта прастойвае, што негатыўна ўплывае на заробкі. Паводле дадзеных прафсаюза, сярэдні заробак на фабрыцы за снежань мінулага году складаў 109 тысячаў рублёў. Гэта і падштурхнула рабочых да радыкальных дзеянняў.

Несанкцыянаваны мітынг ля будынку Слонімскага райвыканкама доўжыўся больш за гадзіну. Толькі пасля сустрэчы з кіраўніцтвам райвыканкама, з раённай пракуратурай і з РАУС, людзі пагадзіліся разысціся. У гэты самы дзень на фабрыцы распачалася выплата заробкаў.

– *Усе праблемы звязаны з тым, што фабрыка працавала праз «пень-калоду» і заробкі былі адпаведныя... Людзі стаміліся, таму і такая рэакцыя. Які настрой? А які ён можа быць, калі працы як не было, так і няма,* – гаворыць старшыня прафсаюзнага камітэту фабрыкі **Леў Марголін**. Па яго словах, сваю дапамогу ў пошуках выхада з крызісу, прадпрыемству абяцалі раённыя ўлады.

Слонімская фабрыка выпускае паўбаваўняную пражу. Сыравіна для фабрыкі ў савецкія часы набывалася ў Аўстраліі. З атрыманнем незалежнасці, асноўным пастаўніком сыравіны стаў Паўночны Каўказ. Але апошнім часам, павелічэнне коштаў баваўны адмоўна паўплывала на канкурэнтназдольнасць прадукцыі слонімскай фабрыкі.

– *Калі мы набудзем баваўну па прапанаваных нам коштах, нашая прадукцыя стане вельмі дарагой і будзе пыліцца на складах. Прадпрыемства працавала нерэгулярна з-за праблемаў з сыравінай... Цяпер мы спрабуем неяк вырашыць гэтую сітуацыю,* – каментуе тэхнічны дырэктар Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі **Васіль Салевіч**.

**Андрэй ПАЧОБУТ**

# Хто пахавае косці нябожчыкаў?



Фота аўтара

***Алег Рамашкевіч спадзяецца, што косці будуць пахаваныя па хрысціянскім абрадзе.***

**Ужо паўгады сумка, поўная чалавечых касцей, захоўваецца ў доме дэпутата Бераставіцкага раённага Савета дэпутатаў Алега Рамашкевіча. Гэтыя астанкі былі знойдзены падчас земляных работ, якія праводзіліся ў Вялікай Бераставіцы каля касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі.**

Існуе некалькі версіяў, адкуль ля старога касцёла з'явіліся людскія косці. Найбольш верагоднай, на думку мясцовых краязнаўцаў, з'яўляецца версія пра тое, што рабочыя наткнуліся на могілкі святароў, якіх звычайна хавалі ля святыні.

Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі быў пабудаваны віленскім кашталянам Геранімам Хадкевічам у 1615 годзе. У 1866 годзе касцёл быў ператвораны ў праваслаўную царкву, каб у 1910 годзе ізноў стаць каталіцкай святыняй. Пасля Другой сусветнай вайны рашэннем савецкіх уладаў храм быў зачынены. У такім стане ён знаходзіцца і па сённяшні дзень. Такім чынам, «бераставіцкія косці» могуць належаць як каталіцкім, так і праваслаўным святарам.

– *Звычайна ля касцёла хавалі заслужаных для веры людзей. Калі я знайшоў гэтыя косці, то спачатку звярнуўся да нашага бераставіцкага ксяндза, хоць сам з'яўляюся праваслаўным... Ён паабяцаў, што знойдзеныя астанкі будуць пахаваныя. Але прайшоў месяц, другі... Ніякіх зрухаў. Потым я быў на прыёме ў біскупа Кашкевіча. Разам са мною былі вернікі з Бераставіцы. Я паведаміў біскупу пра знаходку. Біскуп запісаў штосьці сабе ў нататнік, але ніякага зруху таксама няма,* – гаворыць **Алег Рамашкевіч**.

Тым часам, у Гарадзенскай рыма-каталіцкай епархіі сцвярджаюць, што нічога не ведаюць пра косці, знойдзеныя ля касцёла ў Вялікай Бераставіцы.

– *Я першы раз чую гэтую інфармацыю,* – сказаў карэспандэнту ДНЯ ксёндз-канцлер **Антоні Ханько**.

Падобная ж сітуацыя і з праваслаўнымі святарамі.

– *Нічога пра гэта не ведаю... Толькі ад вас даведаўся. Трэба разабрацца, што адбылося,* – заявіў **айцец Віталь**, святар Успенскай царквы ў Бераставіцы.

Паводле нашай крыніцы, на такое стаўленне святароў Гарадзенскай рыма-каталіцкай епархіі да гэтай праблемы маглі паўплываць захады ўладаў з мэтай нейтралізаваць скандал.

**Альгерд ТАЛКАНІЦА**

### Удакладненне

У мінулым нумары ў подпісу пад здымкам да артыкула «Польшча стане раскошай» была дапушчана памылка. Тэкст: «Гарадзенка Яўгенія Янчэня любіць глядзець серыял «Moda na sukces» па TVP1» трэба чытаць: « Гарадзенка Яўгенія Ясюля...» і далей па тэксту. Просім прабачэння за недакладнасць.

# Слава і забыццё Найдуса

## У 20-я гады яго імём была названа адна з вуліцаў Гродна, а ў 60-я гарадзенскія ўлады знішчылі яго магілу

**Творы Лейбы Найдуса некалі ўваходзілі ў школьную праграму. Яго кніжкі выдаваліся, нават, у далёкай Аргентыне. Ён пераклаў на ідыш і адкрыў для габрэяў творы Пушкіна і Бадлера, Лермантава і Гётэ, Міцкевіча і По. Але, на працягу васьмідзясяці гадоў пасля яго смерці, было зроблена шмат намаганняў, каб памяць пра Найдуса, разам з гісторыяй усяго габрэйскага Гродна, знікла. Яго вершы спалілі фашысты, а магілу знішчылі камуністы... Сёння прозвішча Найдуса вядома толькі краязнаўцам ды вузкаму колу даследчыкаў габрэйскай літаратуры пачатку мінулага стагоддзя.**



*Лейба Найдус (злева) і Абрам Зак. 1917 год*

Для гарадзенцаў асобу паэта і яго творчасць адкрыў пісьменнік Аляксей Карпюк.

– *Карпюк, нягледзячы на тое, што яго называлі нацыяналістам, быў сапраўдным еўрапейцам, чалавекам з кругаглядам, не абмежаваным ідэалогіяй... Яго, «тутэйшага», захапляла гісторыя гэтай зямлі, таму ён і зацікавіўся лёсам Найдуса,* – гаворыць **Іна Анатольеўна Карпюк.**

Ужо пасля смерці Карпюка, яна, выкарыстоўваючы матэрыялы архіва пісьменніка, напісала некалькі навуковых артыкулаў, дзе распавяла пра лёс нашага забытага земляка. Менавіта дзякуючы гэтым намаганням, прозвішча Найдуса было вернута ў афіцыйную гісторыяграфію.

### Дзіця сваёй эпохі

Лейба Найдус нарадзіўся 6 лістапада 1890 года ў Гродне ў сям'і землеўладальніка. Усё яго дзяцінства прайшло ў невялічкай сядзібе Кусцін (сёння вёска Выжгі ў Польшчы), якая знаходзілася ў 23 кіламетрах ад Гродна, побач з Кузніцай Беластоцкай. Сядзіба належыла калежскаму саветніку Мікалаю Апехціну, і была арандавана бацькам Лейбы Ісаакам Найдусам. У сям'і Ісаака і Рахелі Найдус было сямёра дзяцей. Усе дзеці пачыналі вучобу ў хаце ва ўзросце 3 гадоў. Для гэтага бацькі запрасілі спецыяльнага настаўніка. Толькі экзамены яны экстэрнам здавалі у гарадзенскай школе. Пасля заканчэння пачатковай школы Найдус вучыўся ў Радаме, Беластоку, Коўне...

У адпаведнасці з расейскім заканадаўствам, габрэі былі пазбаўлены права знаходзіцца на дзяржаўнай службе, удзельнічаць у самакіраванні і павінны былі жыць па-за паласой аседласці... Таму, няма нічога дзіўнага ў тым, што шэрагі ўсіх рэвалюцыйных партыяў таго часу, актыўна папаўняліся габрэйскай моладдзю. У 1905 годзе за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях Лейба Найдус быў выключаны з вучэльні. У 1907 годзе ў варшаўскім часопісе «Романцайтунг» быў надрукаваны яго першы верш на ідыш. І гэта стала пачаткам творчасці паэта. Потым была вучоба ў Вільні, дзе ён распачаў актыўную літаратурную дзейнасць. У 1915 годзе пабачыў свет першы зборнік яго вершаў пад назвай «Лірыка». Але жыццё паэта была раптоўна абарвана. У 1918 годзе Лейба Найдус захварэў на дыфтэрыю і памёр. Ён быў пахаваны на Новых габрэйскіх могілках. Яму было ўсяго 28 год.



**Помнік на магіле Лейбы Найдуса. Цяпер на гэтым месцы стадыён «Нёман».**
**Фота з архіва А. Карпюка**



**Сімвалічны помнік Лейбе Найдусу на габрэйскіх могілках у Варшаве.**
**Фота з архіва Р. Хасіда**

### Вуліца Найдуса

Сапраўдную вядомасць Лейба Найдус набыў ужо пасля сваёй смерці. У Варшаве былі выдадзены пяць тамоў ягоных твораў: «Кніга паэм», «Лірыка», «Літоўскія арабескі», «Свет Парнаса» і «Руская паэзія».

Сябрамі паэта былі створаны адмысловы Камітэт і Фонд імя Лейбы Найдуса. Галоўнай мэтай гэтых арганізацыяў было «ушанаванне памяці паэта». У Гродне адна з вуліцаў была названая імём Лейбы Найдуса. Творы паэта вывучаліся ў школах. Варшаўскі скульптар Абрам Астжэга зрабіў помнік паэту ў выглядзе анёла, са складзенымі белымі крыламі і апушчанай галавой. У 1925 годзе гэты помнік быў урачыста ўсталяваны на яго магіле.

– *Я памятаю гэты белы помнік, ён быў дастаткова нетыповым для габрэйскіх могілкаў і таму з іх вылучаўся,* – дзеліцца сваімі ўспамінамі Іна Анатольеўна Карпюк.

У паэта засталося шмат ненадрукаваных рукапісаў. Сябра Лейбы Абрам Зак і сястра Рахель рыхтавалі іх да друку, а калі фінансавае становішча не дазволіла гэтага зрабіць, яны перадалі рукапісную спадчыну Найдуса ў Габрэйскі навуковы інстытут у Вільні.

Гэтыя творы, разам з усімі экспанатамі інстытуту, былі знішчаны фашыстамі падчас акупацыі.

### У агні Халакосту і ў полымі нігілізму

Падчас Другой сусветнай вайны, сядзіба Найдусаў – Кусцін – была цалкам знішчана. У агні Халакосту загінулі амаль усе сваякі Лейбы. Са шматлікай габрэйскай сям'і ў жывых засталіся толькі дзве ягоныя пляменніцы.

– *Яны разам з Лейбам выхоўваліся ў Кусціне. Адна, Валянціна з'яўляецца прафесарам гісторыі Польскай акадэміі навук, другая, Алена – мікрабіёлагам,*– распавядае Іна Анатольеўна Карпюк.

На гэтым выпрабаванні не скончыліся. У 1949 годзе ўладамі Гродна быў прыняты новы генеральны план горада. Згодна з гэтым планам, Новыя габрэйскія могілкі, дзе быў пахаваны Найдус, будуць знішчаныя, а на месцы могілак павінен з'явіцца стадыён «Чырвоны сцяг» . У 60-е па магілах паехалі бульдозеры...

Таго, што не паспелі зрабіць у 1963 годзе, дарабілі праз 40-гадоў падчас рэканструкцыі стадыёна «Нёман». Ізноў па касцях паехалі бульдозеры, а людзкія астанкі пачалі вазіць самасваламі па горадзе.

На думку гарадзенскага гісторыка архітэктуры **Ігара Трусава:** «*Калі пазнаёміцца са старымі планамі Гродна, асабліва з планам землямера Аўгусцінка ад 1931 года, можна ўбачыць, што падчас зносу могілак узровень зямлі не пайсюдна быў паніжаны да ўзроўню пахаванняў. Такім чынам, знос быў зведзены да дэмантажу помнікаў і неглыбокай планіроўкі мясцовасці*». Гэта значыць, што, калі выкарастаць старыя планы горада, тэарэтычна, магчыма вылічыць прыкладнае месца пахавання Найдуса.

Не зважаючы на гэта, сёння ніхто не ў стане сказаць, дзе знаходзяцца астанкі паэта: на стадыёне, на вуліцы Чарнышэўскага, куды вывозілася зямля падчас рэканструкцыі стадыёна, на старых габрэйскіх могілках, куды, у выніку ціска міжнароднай габрэйскай грамадскасці, канчаткова была вывезена зямля?

### Вершы не гараць

У 1958 годзе, на 40-ю гадавіну смерці паэта, у Буэнас-Айрасе ў Аргентыне быў выдадзены зборнік выбраных вершаў Найдуса.

– *У Аргентыне жыло шмат гарадзенскіх габрэяў. Там нават выдаваўся часопіс «Гарадзенскае рэха», таму ў гэтай краіне памяталі Найдуса,* – гаворыць старшыня Гарадзенскага грамадскага аб'яднання габрэйскай культуры імя Л.Найдуса **Рыгор Хасід.**

Моцны ўдар па творчасці паэта нанёс заняпад мовы, на якой ён пісаў – ідыш. У Ізраіле афіцыйнай мовай з'яўляецца іўрыт.

На пачатку 90-х Максім Танк пераклаў на беларускую мову некалькі вершаў Найдуса.

– *Яны пазнаёміліся ў Вільні. І з таго перыяду сябравалі... На рукапісу перакалада вершаў, рукой Танка напісана Лёнік Найдус... Для Танка ён быў Лёнік.... Танк быў знаёмы таксама з пляменніцамі Найдуса, якія жывуць у Варшаве,* – узгадвае Іна Карпюк.

– *Падчас працы над зборам твораў Танка я звязваўся з пляменніцамі Найдуса... Адна з іх даслала мне матэрыял па творчасці паэта. Мы маем 5 вершаў Найдуса ў перакладзе Максіма Танка. Яны патрапяць у адзін з тамоў поўнага збора твораў паэта, які рыхтуецца да друку нашым інстытутам,* – гаворыць загадчык аддзела ўзаемасувязі літаратур Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ **Уладзімір Мархель.**

У Варшаве, на адзіных у горадзе габрэйскіх могілках, знаходзіцца сімвалічная магіла Лейбы Найдуса. Белая, нібыта зламаная мармуровая пліта з надпісам «*Лейба Найдус, паэт. Сімвалічны помнік. Гарадзенскі помнік, створаны Абрамам Астжэгай, быў разбураны ў 50-е гады*».

На пачатку 90-х Гарадзенскім грамадскім аб'яднаннем габрэйскай культуры былі зроблены крокі па захаванню памяці Найдуса ў Гродне.

– *Адбываліся паэтычныя вечарыны, тады ў Гродне яшчэ жылі асобы сталага веку, якія ведалі ідыш, таму вершы паэта чыталіся ў арыгінале... Існавалі таксама планы ўсталявання памятнай шыльды,* – гаворыць Рыгор Хасід.

Але гэтыя планы з-за фінансавых складанасцяў так і не былі выкананыя.

### Іншы Гродна

Вайна і Халакост цалкам змянілі аблічча і нацыянальны склад Гарадзеншчыны. З 30 тысячаў гарадзенскіх габрэяў выжыла не больш за 200 чалавек. Сёння, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, габрэі складаюць 0,4 адсоткі насельніцтва Гарадзеншчыны. Назаўжды зніклі габрэйскія крамы, якімі быў вядомы Гродна, савецкім кіраўнікам горада не да спадобы прыйшліся назвы вуліцаў Ерозолімская, Хаўмейстра, Перэца... Невялічкая вуліца Найдуса, як лічаць краязнаўцы, захавала сваю назву толькі таму, што гарадзенскія чыноўнікі не ведалі хто гэта такі...

Сёння ў Гродне з творчасцю Лейбы Найдуса знаёмыя толькі адзінкі.

– *Цяпер іншы час... Моладзь не вельмі любіць чытаць,..* – гаворыць Рыгор Хасід...

...На месцы, дзе быў пахаваны Лейба Найдус адбываюцца спартыўныя спаборніцтвы.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**



Дождж і сонца

Дождж і сонца, дождж і сонца
Кроплі ў залатых праменнях
У сваім палёце ззяюць
[illegible] злучаныя іскры.

Дождж і сонца, дождж і сонца.
На [illegible]
Пад ласкавым цёплым ветрам,
У слязах смяюцца дзеці

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Рэчка ў берагах гайдае
[illegible]
Іх кругі несуцца ў далеч.

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Адбіваецца на небе
Каляровы мост блакітны
[illegible] вечная дарога.

Пераклад Максіма Танка,
Мінск, 24.V.94.

**Нарабілася...**

**Трупы** двух пенсіянераў 1939 і 1926 гадоў нараджэння былі знойдзены ў вёсцы Ніпкі Іўеўскага раёна. Смерць наступіла ад пераломаў чэрапоў і страты крыві. Па папярэдніх звестках, забойства было здзейснена з мэтай нажывы.

■

**Версію** забойства з мэтай рабавання разглядаюць аператыўнікі і ў выпадку смерці пенсіянеркі з гораду Ліда. Яе цела на мінулым тыдні было знойдзена са шматлікімі нажавымі раненнямі. З кватэры знікла буйная сума ў валюце.

■

**Маці** і дачка – загінулі падчас пажару ў вёсцы Пелеса Воранаўскага раёна. Агонь у іх драўлянай хаце ўспыхнуў а сёмай раніцы ў панядзелак, калі жанчыны яшчэ спалі. Калі прыехалі ратавальнікі, гаспадыня 1934 года нараджэння ўжо не дыхала. Яе 96-гадовую маці ў цяжкім стане ўдалося даставіць у шпіталь, дзе яна неўзабаве памерла.

■

**У** той жа дзень пажар адбыўся ў кватэры па вуліцы Янкі Купалы ў Гродне. У выніку неасцярожнага абыходжання з агнём загарэлася вопратка на гаспадыні кватэры. Яе дачка спрабавала патушыць агонь, аднак, жанчына атрымала моцныя апёкі і памерла. У момант трагедыі абедзве жыхаркі кватэры былі нападпітку.

■

**Кампутарная** тэхніка, тэлефон, настольная лямпа ды іншыя матэрыяльныя каштоўнасці зніклі з пасялковага савета ў гарадскім пасёлку Рось. Рабаўнікамі аказаліся 18-гадовы мясцовы жыхар і 23-гадовы юнак з вёскі Нова Ваўкавыскага раёна.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

# У Гродне судзяць маньяка

**Судовы працэс над сэксуальным маньякам распачнецца 6 лютага ў Гродне. 43-гадовы апаратчык «Хімвалакна» ўжо прызнаўся, што згвалтаваў і абрабаваў 6 жанчынаў.**

Сваю першую ахвяру ён намеціў увечары, 7 жніўня мінулага года, у бязлюдным завулку ля басейна «Лазурны». Накінуўся на маладую жанчыну ззаду, прыдушыў і згвалтаваў. Следчы пракуратуры Кастрычніцкага раёна Алег Вераціла сцвярджае, што кабета атрымала настолькі моцны шок, што нават не магла супрацоўнічаць.

На працягу двух з паловай месяцаў, вечарамі, блізу месца свайго жыхарства, у дварах дамоў па вуліцах Гая, Янкі Купалы і Кляцкова, маньяк падпільноўваў 20-30-гадовых жанчынаў. Таксама душыў, адцягваў у бліжэйшыя хмызнякі і гвалціў. Пры гэтым забіраў у жанчынаў мабільныя тэлефоны і сумачкі. Нарабаванае хаваў на працы, а затым прадаваў.

Затрымалі маньяка выпадкова, калі ён адным з мінулагодніх кастрычніцкіх вечароў вяртаўся з працы. Супрацоўнікі дарожна-паставой службы міліцыі пазналі яго па фотаробаце, складзеным пацярпелымі жанчынамі. Пры затрыманні гвалтаўнік паводзіў сябе спакойна і не супраціўляўся. Праз некалькі дзён, пасля апазнання, ён цалкам прызнаў сваю віну. Сказаў, што



гвалтаваў жанчынаў дзеля атрымання экстрэмальных адчуванняў.

– *З выгляду – здаровы мужык,* – паведаміў карэспандэнту ДНЯ следчы пракуратуры Кастрычніцкага раёна **Алег Вераціла**. – *І характарыстыкі з працы ў яго добрыя.*

Як нам стала вядома, гвалтаўнік жыў у адной кватэры са сваёй былой жонкай і іх двума непаўнагадовымі дзецьмі. Разведзеныя яны амаль з дзесятак гадоў, аднак рассяліцца не маглі з-за фінасавых прычынаў.

Камісійная судова-псіхіятрычная экспертыза прызнала маньяка псіхічна здаровым. Віну гвалтаўніка падцвердзілі восем крыміналістычных экспертызаў. Паводле беларускага заканадаўства, за здзейсненае злачынцу пагражае да 15 гадоў зняволення.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

**Каментар ДНЯ**

■ **Наталля Клімец**, *псіхолаг дзяржаўнай службы судова-медыцынскіх экспертыз:*

– Як правіла, маньякамі становяцца людзі, якія ў дзяцінстве былі падвергнутыя насіллю і выраслі ў сацыяльна-небяспечных умовах. Калі вакол чалавека пастаянна складваюцца канфліктныя сітуацыі, ён акумулюе ў сабе ўвесь гэты негатыў і рана ці позна можа выплеснуць яго ў выглядзе насілля. Тэарэтычна, усе людзі, якія маюць высокую ступень агрэсіўнасці, могуць быць схільныя да гвалту. Тут спрацоўвае ў першую чаргу сацыяльна-культурны ўзровень. Чалавек з вышэйшай адукацыяй, з інтэлігентнай сям'і, наўрад ці, стане маньякам.

**Тэлефануйце 72-29-96**

**Дзень змагаецца за вас**

# Справа №2: «Грошы меліяратараў»

***За два гады кіравання аб'яднаннем «Гроднамеліяводгас» дэпутат абласнога Савета Барыс Багданец змяніў амаль усіх кіраўнікоў на падведамасных яму прадпрыемствах. Аднак, кадравая «чыстка» прынесла меліяратарам зніжэнне заробкаў.***

Сёння мы раскажам пра скандальныя падрабязнасці дзейнасці толькі адной з сямнаццаці падкантрольных Барысу Багданцу фірмаў – Слонімскага ПМС (прадпрыемства меліяратыўных сістэмаў). Робім мы гэта па просьбе былой супрацоўніцы і прафсаюзнага лідэра гэтага прадпрыемства Вольгі Кузьміной, якая ўжо паўгады абівае парогі розных інстанцыяў у пошуку справядлівасці.

Гэтая гісторыя пачалася ў 2002 годзе, калі ў краіне скончылася рэарганізацыя меліяратыўнай галіны і былі створаныя абласныя аб'яднанні, якія згуртавалі раённыя ПМС. У нашай вобласці такое аб'яднанне атрымала назву «Гроднамеліяводгас», а ўзначаліў яго кадр з Лунінца (Брэсцкая вобласць) Барыс Багданец.

Нягледзячы на тое, што прыезджы кіраўнік кепска ведаў сваіх падначаленых – меліяратараў Гарадзеншчыны – наводзіць «парадкі» ён пачаў, менавіта, з кадравых пытанняў. Адзін за адным пасады кіраўнікоў страцілі ажно чатырнаццаць з сямнаццаці дырэктараў прадпрыемстваў.

Не пазбегла «чысткі» і Слонімскае ПМС, з касы якога, пад кіраўніцтвам, прызначанага Багданцом, дырэктара Аляксандра Гетманчука, у дзіўных накірунках пачалі знікаць мільёны рублёў. А рабочым, у той самы час, выплочваюць заробак з паніжаючым каэфіцыентам, абцінаюць прэміі ды іншыя, прадугледжаныя законам, даплаты.

Цікава, што кіраўнік «Гроднамеліяводгаса» ведае пра тое, што адбываецца ў яго слонімскага прадпрыемства, але с пасады дырэктара яго не здымае. Чаму? На Слонімскім ПМС мы пачулі версію, што ў апісаных ніжэй падзеях Багданец мог мець цалкам канкрэтны інтарэс.

### Блокі для падпрымальніка (страта – 5.200.000 рублёў)

Гэтая здзелка, як мяркуюць у Слоніме, сталася для Гетманчука «баявым хрышчэннем» на пасадзе дырэктара і, адначасова, – іспытам на лаяльнасць у дачыненні да Багданца.

На пачатку 2002 года новапрызначаны кіраўнік «Гроднамеліяводгаса» ўпершыню аб'язджаў раённыя прадпрыемствы і заўважыў на тэрыторыі Слонімскага ПМС жалезабетонныя блокі СК-40 і блокі ПД-40. Будаўнічыя матэрыялы захоўваліся тут з 1997 года і належылі міністэрству ахоўы прыродных рэсурсаў, якое набыло іх дзеля мэтавага выкарыстання. Аднак, Багданец палічыў, што блокі можна выкарыстаць інакш. Да таго ж, на «кепска ляжачы» тавар у яго меўся кліент – прыватны прадпрымальнік з Гродна Анатоль Ерашэня.

У той час дырэктарам Слонімскага ПМС быў Іван Часноўскі, які



*Вольга Кузьміна, 23 гады была старшынёй прафкама Слонімскага ПМС. Пасля скарачэння яна працягвае адстойваць правы былых калегаў*

му імкненне Багданца прадаць будматэрыялы, набытыя для мэтавага выкарыстання, падалося незаконным. Непадпарадкаванне волі кіраўніка скончылася для Часноўскага звальненнем «па ўласным жаданні».

Выконваючы пасля Часноўскага абавязкі дырэктара ПМС галоўны інжынер Аляксандр Панімасаў, таксама не пагадзіўся на продаж блокаў. Хутка і ён быў вымушаны падаць заяву на звальненне.

Урэшце, Багданец знайшоў чалавека, здольнага ацаніць камерцыйную жылку свайго шэфа. Ім аказаўся Аляксандр Гетманчук, які ў ліпені 2002 года з пасады майстра перасеў у крэсла дырэктара. Потым, як паведаміла Вольга Кузьміна, дваццаць два блокі СК-40 і чатыры ПД-40 былі прададзеныя прадпрымальніку па цане 180 тысяч рублёў за штуку. Іх завадская цана, па нашых дадзеных, складала на той момант каля 380 тысяч рублёў за блок. Такім чынам, прадпрымальнік Ерашэня, пры дапамозе Багданца, зэканоміў, як мінімум, 5 мільёнаў 200 тысячаў рублёў.

Калі нашая чытачка Вольга Кузьміна пацікавілася ў пракуратуры і ў камітэце дзяржкантролю: – Ці пяцімільённы прыбытак прадпрымальніка азначае такую ж страту для прадпрыемства? – блокі ізноў з'явіліся на гаспадарчым двары Слонімскага ПМС. Гэты факт, відаць, настолькі ўразіў пракуратуру і дзяржаўных кантралёраў, што ў сваім адказе Кузьміной, яны напісалі, быццам ніякай страты, у выніку маніпуляцый з будматэрыяламі, Слонімскае ПМС не панесла. Застаецца толькі здагадвацца, дзе, па якой цане і за чые грошы набываліся новыя блокі, а таксама – хто аплаціў іх транспарціроўку.

Кантралюючыя службы і праваахоўныя органы просім адрэагаваць на папярэдні сказ як на афіцыйны запыт «Дня».

### КрАЗ з прычэпам (страта – 6.416.000 рублёў)

Дзіўна, што за гэта яшчэ ніхто не паліруе турэмныя нары. Рэдакцыя мае копіі фінансавых дакумантаў, па якіх дакладна бачна, як у нашай краіне можна рабіць з дзяржавы дойную карову, а з паветра – рэальныя грошы.

9 ліпеня 2003 года вайсковая частка 18662, якая месціцца ў г. Жодзіна, атрымлівае згоду прадаць ТДА «АЎТАКАР» аўтамабіль КрАЗ з прычэпам па цане 5.500.000 рублёў.

11 ліпеня. ТДА «АЎТАКАР» выстаўляе рахунак (які з'яўляецца пратаколам узгаднення цэнаў) Слонімскаму ПМС на той самы КрАЗ з прычэпам, але ўжо па цане 11916000 рублёў.

Праз некалькі дзён Слонімскае ПМС пералічвае апошнюю суму на рахунак ТДА «АЎТАКАР», якое пяць з паловай, з амаль дванаццаці, атрыманых мільёнаў пералічвае на рахунак вайскоўцаў.

Вы спытаецеся: за што ТДА «АЎТАКАР» атрымала больш за 6 мільёнаў рублёў? Адказваем: ні за што. Камерсанты не зрушылі гэты КрАЗ нават з тэрыторыі вайсковай часткі. А перагнялі аўтамабіль у Слонім самі супрацоўнікі ПМС.

Спадзяемся, што пракуратура ўспрыме гэты раздзел як афіцыйнае паведамленне аб злачынстве і праінфармуе нас пра ўзбуджэнне крымінальнай справы па апісаных фактах.

### 10 тон саляркі (страта – 5.856.030 рублёў)

Калі дакладна, то за перыяд з 6 па 9 чэрвеня 2003 года з тэрыторыі Слонімскага ПМС знікла 10 тысячаў 253 літры, дызельнага паліва. Адзінае, што адрозніває гэтае марнатраўства ад папярэдніх – тое, што ў дадзеным выпадку з хадайніцтвам да пракуратуры аб узбуджэнні крымінальнай справы выступіў сам дырэктар Гетманчук. Здзіўляе ж тое, што прайшло ўжо больш за паўгады, але ні пра якія вынікі расследавання пракуратура не паведамляе.

### Падвядзем вынік

За паўтары гады кіравання Гетманчука Слонімскім ПМС, гэтае прадпрыемства страціла столькі грошай, што калі іх падзяліць на ўсіх работнікаў, то кожны атрымаў бы каля 500 тысяч рублёў. Гетманчук, тым часам, зніжае заробкі сваім падначаленым і адчувае сябе на пасадзе дырэктара вельмі ўпэўнена. А што на гэты конт думае дырэктар «Гроднамеліяводгаса» Барыс Багданец? На сёння гэта наша апошняе пытанне да кантралюючых органаў.

**Рэпарцёры «Дня»**

# 11 «А» клас школы №15

**Шаноўныя чытачы! У гэтым нумары прапануем Вам пазнаёміцца з вучнямі яшчэ аднаго выпускнога класа СШ №15. Гэтыя дзяўчаты і хлопцы вырашылі не адставаць ад сяброў і таксама прынялі ўдзел ў акцыі «Наша Будучыня». Нагадаем, што мэтай акцыі з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы – вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне 72-29-96.**



Фота Ярослава Ванюкевіча

***Верхні рад (злева направа):*** **Аляксандр Ласевіч, Андрэй Кузняцоў, Аляксандр Ган, Надзея Янчэўская, Наталля Пятрэвіч, Кацярына Гуцько, Яўген Гербатоўскі.** ***Ніжні рад:*** **Марыя Лашук, Марыя Харытонава, Ганна Зубрыцкая, Юлія Матусевіч, Анастасія Суравец**

### Аляксандр Ласевіч

Хутчэй за ўсё стане праграмістам. У любым выпадку сваю прафесійную будучыню Аляксандр звязвае са сферай інфармацыйных тэхналогіяў. Таму, на першым месцы сярод яго захапленняў стаіць кампутар. Уражвае тое, што акрамя кампутара ў гэтага хлопца хапае часу на занятнкі спортам, на слуханне музыкі, на захапленне кіно, кнігамі і на вывучэнне замежных моваў. Калі б мы захацелі паставіць Аляксандра ў шэраг знакамітых людзей, тады мы параўналі б яго з Юліям Цэзарам, які мог адначасова займацца некалькімі справамі. Аднак, сам Аляксандр лічыць, што быць да кагосьці падобным неабавязкова.

### Андрэй Кузняцоў

Амаль увесь вольны час Андрэя звязаны з заняткамі шорт-трэкам (канькабежны спорт на хакейнай пляцоўцы). Таму яго прафесійнай марай, пасля заканчэння кар'еры спартоўца, з'яўляецца праца трэнера па шорт-трэку. Калі ж, па нейкіх прычынах, гэта не атрымаецца, Андрэй не прападзе і заробіць на жыццё добрым веданнем нямецкай мовы. Аднак, мы жадаем Андрэю, каб ягоная мара збылася і ён дасягнуў у шорт-трэку больш, чым ягоны сённяшні кумір, знакаміты італьянскі канькабежац Фабіё Карта.

### Аляксандр Ган

Магчыма ўжо праз некалькі гадоў Аляксандр вернецца ў родную школу і прыме эстафету ад сваіх настаўнікаў. Выбар прафесіі хлопец тлумачыць тым, што яна вельмі патрэбная грамадству. Пакуль, аднак, ён не вырашыў, які прадмет будзе выкладаць. Але ўжо сёння Аляксандр мае галоўнае, чым павінен вызначацца кожны настаўнік – ён цікавы і неардынарны чалавек. Хлопец захапляецца музыкай, грае на гітары, гуляе ў шахматы, займаецца спартовымі танцамі і мадэляваннем самалётаў. У Аляксандра няма канкрэтнага куміра, але ён паважае таленавітых і творчых людзей і кажа: «Маімі кумірамі з'яўляюцца ўсе выбітныя музыканты (гітарысты) і кампазітары».

### Надзея Янчэўская

Адпаведнай сабе лічыць прафесію эканаміста. Цяпер, у вольны ад школьных заняткаў час, Надзея самастойна пашырае сваю эрудыцыю з дапамогай кніг. Пры чым чытае дзяўчына не толькі па– беларуску і па-руску, але і на замежных мовах. Калі вы спытаецеся, на каго Надзея хоча быць падобнай, дзяўчына адкажа: «На сваю маму. Гэта добры, мудры і сумленны чалавек, якога я вельмі люблю і паважаю. Калі б такіх людзей на Зямлі было больш – жыццё сталася б лепшым, святлейшым і больш прыемным».

### Наталля Пятрэвіч

Найбольш шанцаў уладкавацца ў жыцці, на думку Наталлі, дае прафесія эканаміста-праграміста з веданнем замежнай мовы. Таму, па-за межамі школьнай праграмы, яна паглыблена вывучае матэматыку. А адпачынак для душы Наталля знаходзіць у музыцы і ў забавах з братамі нашымі меншымі. Куміраў у Наталлі няма, бо яна больш за ўсё цэніць уласную індывідуальнасць.

### Кацярына Гуцько

Марыць пра тое, каб навучыцца разумець і адчуваць унутраны свет людзей. Менавіта таму, у дарослым жыцці яна хоча працаваць псіхолагам. Сёння ж дзяўчына любіць бавіць час на дыскатэках, дзе можна station паназіраць за паводзінамі аднагодкаў. Тэарэтычныя веды пра псіхалогію Кацярына чэрпае, пакуль што, з дэтэктываў Дар'і Данцовай. Дзяўчына не мае ідэалу чалавека, бо не хоча быць ні да каго падобнай.

### Яўген Гербатоўскі

Падыходзіць да выбару прафесіі вельмі практычна і хоча быць маркетолагам, таму што гэтая праца «супадае з ягонымі інтарэсамі і пажаданым заробкам». Узважанасць і здаровы розум Яўгена бачны нават у тым, што свой вольны час ён праводзіць вельмі збалансавана: фізічныя заняткі (баскетбол) чаргуе з інтэлектуальнымі (чытанне кнігаў). Сярод людзей, на якіх гэты хлопец хоча быць падобным, ён назваў свайго дзядзьку Яўгена, Онорэ дэ Бальзака і самога сябе.

### Марыя Лашук

Марыць пабачыць, як жывуць людзі ва ўсіх краінах свету. Менавіта таму, сваю прафесійную будучыню Марыя звязвае з турыстычным бізнесам і плануе стаць турагентам. Хвіліны смутку ў далёкіх падарожжах Марыі дапаможа перажыць яе ўлюбёная музыка – цяжкі рок. Што тычыцца фізічнай кандыцыі – на гэты конт працадаўцы Марыі могуць не хвалявацца, таму што дзяўчына захапляецца спортам. У людзях Марыя найбольш цэніць індывідуальнасць, таму не хоча быць ні да каго падобнай. «Калі зусім крышачку, тады па характары – да Ville Valo з групы HIM, прыхільніцай якой я з'яўляюся», – удакладняе яна.

### Марыя Харытонава

Цвяроза ацэньвае нашую паўсядзённую рэчаіснасць, таму ў выбары прафесіі кіруецца перш за ўсё практычнымі меркаваннямі і хоча стаць цырульнікам. «Гэтая прафесія на сённяшні дзень выгадная», – тлумачыць Марыя. Марыць жа яна зусім пра іншую працу. Пра якую? Гэта пакуль – таямніца. Адважымся выказаць здагадку, што мара Марыі звязана з музыкай, без якой дзяўчына не ўяўляе свайго жыцця. Што тычыцца куміраў – іх у Марыі няма, таму што ёй хочацца заўсёды заставацца сабой.

### Ганна Зубрыцкая

Будучы юрыст. У гэтай прафесіі Ганну прываблівае магчымасць кантактаваць з людзьмі. Адпачыць ад цяжкіх будняў юрыста дзяўчыне дапаможа музіцыраванне на фартэпіяна. Найбольш аўтарытэтным чалавекам для Ганны з'яўляецца бацька. «Ён вельмі шмат чаго дасягнуў у жыцці і не спыняецца перад цяжкасцямі», – характарызуе Ганна свайго тату – генеральнага дырэктара адной з буйных фірмаў.

### Юлія Матусевіч

Марыць атрымаць юрыдычную адукацыю. А вызначальным матывам у выбары прафесіі з'яўляецца для Юліі значэнне гэтай працы для грамадства. Вывучэнне замежных моваў, на нашую думку, толькі дапаможа Юліі набыць самую высокую юрыдычную кваліфікацыю. Гэта напэўна атрымаецца, калі дзяўчына пераймае найлепшыя якасці сваёй бабулі. «Яна заўсёды дабіваецца пастаўленай мэты і з'яўляецца вельмі упартым і моцным чалавекам», – расказвае пра бабулю Юлія.

### Анастасія Суравец

Яшчэ адзін будучы юрыст ў гэтым класе. Анастасія выбрала гэтую прафесію таму, што лічыць яе вельмі прэстыжнай. Мяркуючы па рознабаковым захапленням дзяўчыны, з яе вырасце не толькі высокапрафесійны юрыст, які ведае замежныя мовы і свабодна арыентуецца ў інтэрнэце, але і высокакультурны чалавек, які любіць музыку і разбіраецца ў ёй. У людзях Анастасія цэніць перш за ўсё індывідуальнасць.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

**КУПОН-ЛАТАРЭЯ**

**Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»**

Мне найбольш спадабаўся клас____ школы ______

Імя __________ Прозвішча ______________

Мой кантактны тэл. ____________________

Адрас: ______________________________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# Пах тыгровых архідэяў



Юры Гумянюк

**Пасля некаторага зацішша ў змялелым гарадзенскім літаратурным азярцы, паэт Юры Гумянюк зноў скаламуціў ваду – выдаў новую кнігу пад назвай «Вуліца тыгровых архідэяў». Зважаючы на досыць прыстойны фармат і мастацкую аздобу, у параўнанні з трыма папярэднімі паэтычнымі зборнікамі, кніга не засталася па-за ўвагай аматараў вершаванага радка. Напрыканцы мінулага года аўтар запрэзентаваў яе ў Польшчы, Гродне і Менску...**

– Я звыкся на ўсё класці з прыборам і пісаць ды друкаваць усё, што думаю і хачу. Але ў Беларусі сёння гэта амаль немагчыма. У афіцыёзных колах мяне залічаюць у «апазіцыянеры», хаця я не належу да нейкіх партый. Дзіўная рэч, але ў Гродне няма аніводнага літаратурна-мастацкага часопіса ці цалкам незалежнай ад уладаў грамадска-палітычнай газеты. І, каб застацца заўважаным, трэба «свяціцца» ў Менску альбо Варшаве, нават у паблізкім Беластоку, дзе пяць ці шэсць культурніцкіх выданняў. Вершаў цяпер друкую мала, у асноўным культуралягічныя нарысы, эсэ і вострасацыяльныя фельетоны.

*– І таму ты вырашыў выдаць «Вуліцу...» у Беластоку?*

– У Беластоку маю шмат прыхільнікаў. Прадзюсэрам выдання выступіў рэдактар часопіса «Правінцыя» Аляксандр Максімюк, а ў якасці мастацкага аздаблення выкарысталі творы майго падляшскага цёзкі – Юркі Федарука. Дзіўная рэч, пры маім сяброўстве і знаёмстве з вялікай колькасцю мастакоў, папярэднія мае зборнікі былі аформлены вельмі някідка...

*– Але добра разыходзіліся, бо захаплялі чытача сваёй нязвыклай экстравагантнасцю.*

– Рэч у тым, што пасля развалу СССР кніжкі трэба было выпускаць вельмі хутка, каб патрапіць у плынь літаратурнай моды і не загінуць у кіпцюрах фанабэрлівых рэдактараў дзяржаўных выдавецтваў. Але тады быў вялікі энтузіязм – Адраджэнне! А зараз што? Нейкая маральная дэградацыя, разгул расейскай папсы і нацыянальнае выраджэнне. У такіх умовах менш за ўсё хочацца гаварыць пра паэзію.

*– Калі ў загалоўку тваёй новай кнігі ёсць слова «вуліца», дык у ёй, напэўна, дамінуе гарадская тэма?*

– Яна працінала ўсю маю творчасць. «Вуліца тыгровых архідэяў» – гэта выбранае, The best of Humianiuk. Але там ёсць з 20 вершаў, напісаных ужо пасля выхаду скандальна вядомага «Рытуалу» і цэлая нізка раней не публікаваных маіх юнацкіх вершаў 1980-х гадоў. Так што спонсар выдання – Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь – зрабіў каштоўны падарунак для аматараў сучаснай беларускай паэзіі і яе даследчыкаў, студэнтаў і выкладчыкаў філалогіі. Я ўжо думаў кінуць пісаць вершы, увогуле, змяніць прафесію. Але лепшая частка народу патрабуе свайго кавалка хлеба і відовішча пад прозвішчам «гуменюковая паэзія». Дарэчы, «Вуліцу...» трэба шукаць у прыватных распаўсюднікаў, але найлепш яе замовіць праз сістэму «Кніга – поштай» (e-mail: exlibris@tut.by. Тэл. 8-029-643-57-33, для звычайных лістоў: п/с 333, 220050, Менск).

*– А цяпер прыватнае пытанне. Ад чаго пакутуе Гумянюк? Чым жыве? На што спадзяецца?*

– Дзякуй Богу, што не палю цыгарэтаў. Яшчэ ўлетку пакутваў ад таннага алкаголю, якім наша дзяржава ўмела спайвае беларускі народ. Але кінуў бухаць, бо трэба берагчы здароўе. Пакутую, як кожны беларускі паэт, ад жыццёвай неўладкаванасці ў дэбільным савецкім грамадстве. А жыву самім сабой, гледзячы праз шкло хатняга акварыюму на падводны трапічны сад узімку, і паглынаю далікатны пах кветак у сваім агародзе ўлетку. Спадзяюся, у бліжэйшы час толькі на ўдалую раскрутку свай новай кнігі і чарговыя сустрэчы з чытачамі.

**Гутарыла**
**Алеся МАКАВЕЦКАЯ**

*Перадузяты агляд прэсы*

# Страсбург не дапаможа

***«Разумных бараноў наогул жа нямнога,***
***А гэты – дык дурней дурнога...»***
***Кандрат КРАПІВА***

**Перад тым як перайсці да абмеркавання таго, што на мінулым тыдні «наструячылі» гарадзенскія «акулы пяра», хачу падзякаваць чытачам за словы падтрымкі ў адрас старога і хворага Свінтуса. Калі б не вы, то «шчаўкапёры» пашынкавалі б мяне на шкваркі, пасля майго першага агляду іхных газетаў. Ім, бачыш, прыйшлося не да спадобы тое, што нейкі стары храк не толькі навучыўся чытаць, але і асмельваецца крытыкаваць іхныя «нятленкі». Такая нэрвовая рэакцыя сведчыць, напэўна, пра недахопы ў выхаванні гэтых дамаросльх папарацы. Я, напрыклад, заўсёды кажу сваім унукам – малым свінтусікам: «Калі хочаце стаць сапраўднымі Грандыёзусамі, то кожны дзень выціскайце з сябе па кроплі разбэшчанай і высакамернай свінні».**

*Але, хопіць разважанняў. Лепш паглядзім, чым гарадзенскія рэдактары пудрылі нашыя мозгі на мінулым тыдні.*

***

**«Вечерний Гродно»** займаўся адукацыяй чытачоў у галіне мовы. Так, з артыкула пра раздачу ліцэнзіяў на маршрутныя перавозкі мікрааўтобусамі, мы даведаліся пра новую, «правільную», назву.

*«Кстати, укоренившееся в народе* ***название «маршрутка» устарело*** *еще год назад. В январе 2003 года горисполком переименовал эти перевозки,* ***правильно*** *они называются* ***«экспресс-маршрут»****.*

Можна зразумець тое, што «ВГ» вымушана папулярызаваць усе, нават самыя абсурдныя, «словаўвядзенні» свайго заснавальніка – гарвыканкама. Толькі хто патлумачыць сівому Свінтусу, **чаму** гэтая ж газета ўпарта называе старшыню гарвыканкама **Антоненку** «састарэлым» словам **«мэр»**, а старшыню аблвыканкама **Саўчанку** – не менш «састарэлым» – **«губернатар»**? Кастрычніцкая ж рэвалюцыя адбылася яшчэ ў 1917 годзе! Ды і пасля яе, ні пры Пілсудскім, ні пры савецках, ні пры Лукашэнку «вертикальных» начальнікаў **не перайменоўвалі** ні ў «мэраў», ні ў «пэраў», ні ў «губернатараў».

***

Калі Вам пашчасціць даць інтэрв'ю **«Бирже информации»** – майце на ўвазе, што гэтая газета вельмі творча падыходзіць да рэдагавання словаў сваіх суразмоўцаў. У мінулым нумары «БИ», паводле словаў галоўнага спецыяліста інстытута «Гроднажылпраект» Уладзіміра Лытава, у сучасным заапарку...

*«...зверю и птице должно быть удобно, посетителю – интересно, а персоналу – легко кормить, убирать и лечить».*

Журналісты «БИ», калі ласка, у наступным нумары папрасіце спадара Лытава ўдакладніць: кармленнем, уборкай ці можа лячэннем будзе зручна займацца ў Гарадзенскім заапарку маім лясныя суродзічам – дзікам?

***

І ўсё-такі **«Биржа информации»** – гэта, перш за ўсё, газета для людзей. Расповед пра барацьбу гарадзенца Яна Романа за свае працоўныя правы «БИ» заканчвае на, так бы мовіць, аптымістычнай ноце:

*«Но Роман уверен, что уж* ***если не наш*** *Верховный суд,* ***то Страссбургский*** *точно все расставит на свои места».*

Спадар Ян, Страсбургскі суд не будзе разглядаць Вашую скаргу, бо нашая з Вамі краіна Беларусь не з'яўляецца сябрам Рады Еўропы. Таму, **юрысдыкцыя Страсбургскага суда на нас з Вамі не распаўсюджваецца.**



Дрэнна, што калегі з «БИ» Вам гэтага не патлумачылі.

*Добра, затое, што ёсць я, заўсёды Ваш,*

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

*Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў*

# Не сварыцеся з кантралёрамі

**Шмат людзей, якія маюць звычку ездзіць па праязных білетах, на пачатку месяца забываюцца іх набыць і ўспамінаюць пра гэта толькі тады, калі трапляюць у рукі кантралёраў. Так здарылася на днях з нашым чытачом Ігарам Раманавічам. Заплаціўшы штраф, ён патэлефанаваў у нашую рубрыку і папрасіў, каб мы даведаліся, як даюць сабе рады ў такой сітуацыі іншыя людзі.**




Па выніках апытання атрымалася, што амаль палова гарадзенцаў ніколі не трапляла у скуру «зайца», астатнія ж, хаця б раз у жыцці, яе на сябе прымервалі.

**Не «зайцы» – 48 чалавек**

Пра 37 апытаных можна сказаць, што яны людзі вельмі дысцыплінаваныя, а страх быць злапаным без білета перамагае ў іх непаметлівасць, уласцівую большасці «зайцоў». «Я вельмі нярвовы чалавек і ведаю, што не дала б сабе рады ў стрэсавай сітуацыі. Таму, гатовая прабіць нават дзесяць талонаў, каб толькі ў яе не патрапіць», – адказала адна з нашых суразмоўніц.

Яшчэ 11 чалавек паведамілі, што яны не «зайцы» таму, што карыстаюцца правам бясплатнага праезду. Чацвёра з іх – ветэраны вайны. Столькі ж – інваліды першай ці другой групы. Трое – працуюць альбо працавалі ў тралейбусным дэпо ці аўтобусным парку і ездзяць па адмысловых пасведчаннях.

**«Зайцы» – 52 чалавекі**

23 нашыя суразмоўцы сказалі, што заўсёды моўчкі плацілі штраф. «Са мной гэта здарылася толькі аднойчы. Жонка паклала ў кішэню два білета – скасаваны і добры. Я, калі ехаў, выпадкова прабіў скасаваны і не заўважыў гэтага, бо кампосцер быў сапсаваны. Калі ўжо кантралёр сказаў, што ў мяне не той білет – спрачацца не стаў і заплаціў», – распавёў адзін з гарадзенцаў.

Яшчэ 5 імкнуліся пераканаць кантралёра ў сваёй невінаватасці. Але спроба «качаць правы» не прыносіла пажаданага эфекту. «Я забыла праязны ў іншай куртцы. Але мае аргументы не дзейнічалі і прыйшлося заплаціць», – падзялілася досведам адна з апытаных.

Па словах 16 чалавек, шанец пазбегнуць кары з'яўляецца, калі прызнаеш віну, вымаліш у кантралёра прабачэння і папросіш «войти в положение». «Я вучуся ў Менску, таму часта вяртаюся ў Гродна ў пяць гадзінаў раніцы і без грошай. Усё гэта я тлумачу кантралёрам і мяне, як правіла, не штрафуюць», – выдала сакрэт студэнтка. А больш сталая кабета распавяла: «Неяк вярталася з працы. Галава задураная, таму забылася прабіць білет. Кантралёрам пажалілася, што мала зарабляю, на ўсім даводзіцца эканоміць, а аванс яшчэ ня хутка. Мяне адпусцілі». Адзін з рэспандэнтаў сфармуляваў нават правілы паводзінаў у дачыненні да кантралёраў: «Галоўнае – ніколі з імі не сварыцца і не качаць правы. Просьба: «Цёценька, адпусціце мяне, я больш так не буду» – дае больш шанцаў пазбегнуць штрафу».

Яшчэ адзін спосаб не плаціць штраф: сядзець некалькі гадзінаў у кантралёрскім аўтобусе і ўсім выглядам дэманстраваць, што не заплаціце ні пры якіх абставінах. Так раіла ажно 8 апытаных. «Мы з сябрамі заўсёды так робім і нас адпускаюць», – сказаў хлопец, відавочна, падлеткавага ўзросту.

**А. ПЫТАЛЬНІК**

**Тэму наступнага апытання Вы можаце запрапанаваць па тэлефоне 72-29-96**



ДЕНЬ

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**
Рэдактар нумару **Павал Мажэйка**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
**Адрас для лістоў:** 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11
**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны
на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат»,
214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8060
Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 4.02.2004 у 01:00.

Меркаванні аўтараў не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Спасылка на «День» пры перадруку абавязковая.